

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА





**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 52 (1255) 30 СНЕЖНЯ 2015 г.**


# *З Новым годам!*

## 2 0 1 6






## У Вушачах адкрылі і асвяцілі помнік Рыгору Барадуліну

На другі дзень Каляд 26 снежня ў Вушачах адкрылі помнік Народнаму паэту Беларусі Рыгору Барадуліну. Помнік - валун з высечаным на ім крыжам - асвяцілі архімандрыт Сяргей Гаек, святар грэка-каталіцкай царквы айцец Аляксандар Шаўцоў з Полацка і ксёндз Аляксей Асон з Вушачаў.

На імпрэзе прысутнічалі Валянціна Барадуліна, удава паэта, Валянціна Быкава, родная сястра знакамітага пісьменніка, літаратары Уладзімір Някляеў, Сяргей Шапран, Міхась Скобла, жыхары Вушачаў.

Зрэшты, жыхароў райцэнтра было небагата. Навіна пра адкрыццё помніка перадавалася неафіцыйна - з вуснаў у вусны, бо ў мясцовай газеце аніякага паведамлення пра гэта не было.






Тым не менш, ініцыятар стварэння помніка Глеб Лабадзенка адзначыў, што вялікі ўнёсак у гэтую справу зрабілі і мясцовыя ўлады. Яны арганізавалі будаўнічыя работы, а да сённяшняга дня падсыпалі жвірам сцежкі на могілках.

Надмагільны помнік Народнаму паэту Беларусі - гэта валун вагою ў 2,5 тоны, на якім высечаны надпіс: ***"Рыгор Барадулін. Сын. 1935-2014".*** Гэта гады жыцця паэта. Побач знаходзіцца магіла маці Рыгора Іванавіча, на ім напісана ***"Мама Акуліна Андрэеўна Барадуліна".*** Гэта была воля Рыгора Барадуліна - каб яго пахавалі побач з маці ў родных Вушачах. І помнік, які ён атрымаўся, дзядзька Рыгор напрарочыў сабе яшчэ пры жыцці. Пра гэта нагадаў прысутным паэт Уладзімір Някляеў:

- Мы прысутнічаем пры выкананні апошняй волі дзядзькі Рыгора. У ягоным вершы "Прашэнне", напісаным яшчэ ў 1995 годзе, ёсць радкі: *"Калі я адыду, пастаўце мне валун сівы і крыж на валуне..."* Гэта воля выканана тут, на роднай Вушацкай зямлі.

Жорнавыя камяні, укладзеныя ў падножжа - ідэя скульптара Ігара Засімовіча, аўтара помніка. Яна з'явілася з таго, што перад хатай Барадуліна ў Вушачах - брукаванка, якую ён вельмі любіў. Спачатку хацелі зрабіць брукаванку і тут, а потым Ігару Засімовічу прыйшла думка пакласці жорны. Да ўсяго, дзед Барадуліна, Андрэй Галвіньш, быў млынаром. І ў беларусаў жорны - сімвал творчасці, урадлівасці. І быў звычай ставіць жорны на магілы людзям, якія мелі надзвычайныя здольнасці, былі чараўнікамі...

*Радыё Свабода.*


ISSN 2073-7033




## 15 гадоў часопісу "АБАЖУР"




Аналітыка прафесіі - журналісцкі часопіс "Абажур" гэтым займаецца ўжо 15 гадоў. Галіновае выданне Беларускай асацыяцыі журналістаў адзначае юбілей. Паўстаў ён у снежні 2000 года, калі ў БАЖы зразумелі, што ёсць патрэба ў адмысловым выданні пра журналістыку і для журналістаў, каб апісаць працэсы, якія адбываюцца ў галіне, дыскутаваць на прафесійныя тэмы ды дзяліцца досведам. Сёння, паводле галоўнага рэдактара часопіса Уладзіміра Дзюбы, "Абажур" знайшоў сваё месца.

- 15 гадоў мы працуем. На сённяшні дзень "Абажур" - гэта своеасаблівы летапіс. Можна паднядь архівы, ёсць і электронны варыянт у фармаце ПДФ. Гэта летапіс супрацьстаяння наступу на свабоду слова, на вольную журналістыку і г.д.

Пытанні прафесійных стандартаў і праблемы журналісцкай этыкі, замежны досвед і гісторыя беларускай незалежнай журналістыкі - гэта толькі кароткі пералік тэмаў, якія трапляюць на старонкі "Абажура".

На канец лістапада выйшла ўжо 113 нумароў.

Дэвіз часопіса: "Трымайся праўды".

*Улад Грынеўскі,*
*Беларускае Радыё Рацыя.*

***"Наша слова" віншуе рэдакцыю часопіса "АБАЖУР" з 15-годдзем выдання, а разам з Калядамі і Новым годам. Нам, як нікому, вядома, як не проста трымаць на працягу 15 гадоў высокую марку адзінага прафесійнага выдання беларускай незалежнай журналістыкі.***

***Сто гадоў вам, сябры, вострага пяра і светлых галоў. Трымайцеся праўды!***

№ 52 (1255) 30 СНЕЖНЯ 2015 г. Наша слова

*Дзяніс Тушынскі,*
***намеснік старшыні Таварыства беларускай мовы***

# Мануметальная мова

*(Заканчэнне. Пачатак у папяр. нумарах.)*

Узвышэнне пасярод лесвіцы да помніка адзначае ўплыў на афрыкаанс таксама моў малайскай, арабскай і крэольскай малайска-партугальскай.

Круглы подыюм справа сімвалізуе паўднёвую частку Афрыкі. Паўшар'і на подыюме сімвалізуюць уплыў афрыканскіх моваў: кхоі, ксоза, зулу, сота. Зноў жа ніводнае паўшар'е не абазначае пэўную мову. Памер паўшар'яў якраз павялічваецца ў кірунку гіпербалы.

Афрыканскія і еўрапейскія мовы зліваюцца, утвараючы мост, і ўліваюцца ў падмурак гіпербалы.

Адзін элемент помніка падаецца лішнім - гэта кароткі надпіс перад лесвіцай да яго. Яго можна перакласці як "Мы адданыя гэтаму" ці "Мы ставімся да гэтага сур'ёзна". Можна было б і не пісаць… Фраза прыпісваецца некалькім палітыкам як фрагмент іх прамоў супраць палітыкі англізацыі Паўднёвай Афрыкі.

Але і гэтага ім мала! Даследаванне, распачатае музеем мовы афрыкаанс у 2010 годзе, ужо зафіксавала ў розных гарадах краіны не менш за 20 помнікаў мове.

Які кантэкст усталявання гэтага помніка? Моўнае пытанне ў Паўднёвай Афрыцы заўжды стаяла востра. У канцы 18 стагоддзя Брытанія захоплівае заснаваную галандцамі Капскую калонію і абвяшчае англійскую мову мовай адукацыі і ўраду, распачынаецца перыяд англізацыі. Школьнікаў за выкарыстанне роднай мовы прымушаюць насіць шыльду з надпісам "Я - асёл". Родная мова робіцца для афрыканераў сімвалам нацыянальнай ідэнтычнасці і адраджэння. У канцы 19 стагоддзя распачынаецца рух за развіццё мовы афрыкаанс. Да таго часу гэта мова ўспрымалася як нізкастатусны дыялект. Змаганне за афіцыйны статус афрыкаанс накладвае адбітак на нацыянальны характар і ідэалогію. Не гледзячы на фармальнае ўраўнаважванне ў правах з англійскай галандскай мовы ў 1910, а афрыкаанс у 1925, фактычна перыяд англізацыі цягнецца да 1948 года, калі да ўлады прыходзіць Нацыяналістычная партыя.

Перыяд з 1948 па 1994 - час росквіту афрыкаанс. Адначасова гэта і перыяд апартэіду як афіцыйнай дзяржаўнай палітыкі. Падчас апартэіду дзяржава навязвае гэтую мову іншым моўным супольнасцям. У 1976 годзе загад ужываць афрыкаанс у якасці адзінай мовы навучання шэрагу прадметаў у негрыцянскіх школах справакаваў дэманстрацыю пратэсту ў Саўэта, негрыцянскім прыгарадзе Ёханэсбурга. Каля 15000 чалавек, у асноўным школьнікаў, выйшлі на вуліцы з плакатамі кшталту "Афрыкаанс - прэч!". Дэманстрацыя была растраляная паліцыяй, вельмі шмат людзей было забіта.



Помнік пакутнікам у Дацы (Бангладэш)

Падчас апартэіду афрыкаанс асацыяваўся з расісцкай палітыкай, стаўленне да гэтай мовы ў вялікай частцы насельніцтва краіны было дужа адмоўным. Біскуп Дэсманд Туту назваў афрыкаанс мовай прыгнятальнікаў. У сваю чаргу англійская мова стала знакам пратэсту і сродкам аб'яднання негрыцянскага насельніцтва.

У літаратуры, праўда, адзначаецца, што колькасць афрыкаанс-моўных нябелых, якія пацярпелі ад апартэіду была большая, чым колькасць афрыкаанс-моўных расістаў. Акрамя таго, эксплуататармі неграў у прамысловасці і сыравіназдабычы былі ў асноўным англамоўныя. Нарэшце, сярод носьбітаў афрыкаанс была "невялікая, але заўважная" апазіцыя апартэіду.



Помнік афрыкаанс

Камітэт па стварэнні помніка быў утвораны ў 1942 годзе, у 1964 быў абвешчаны конкурс на лепшы праект. Помнік быў усталяваны ў 1975 годзе ў гонар 50-годдзя абвяшчэння афрыкаанс афіцыйнай мовай, а таксама стогадовага юбілею Таварыства сапраўдных афрыканераў, якое займалася прапагандай афрыкаанс. На мерапрыемстве прысутнічала больш за 40.000 чалавек. Пагроза белых пісьменнікаў праігнараваць мерапрыемства, калі на яго не запросяць пісьменнікаў іншых рас, прымусіла ўлады пайсці на такую саступку.

Апартэід быў адменены ў 1994 годзе, і сёння ў краіне адзінаццаць афіцыйных моў. Паводле перапісу 2011 года афрыкаанс была роднай мовай 13,5% насельніцтва, амаль 7 мільёнаў чалавек. Гэта трэцяя па распаўсюджанасці родная мова краіны. Шмат жыхароў ПАР валодае афрыкаанс як няпершай мовай. Аднак вялікая роля англійскай мовы кідае афрыкаанс новы выклік.

Пасля 1994 года былі прапановы знесці помнік афрыкаанс разам з іншымі манументамі перыяду панавання афрыканераў як нікому не патрэбныя балючыя напаміны пра рэжым апартэіду. Нядаўняя дысертацыя пра паводзіны наведвальнікаў помніка і іх стаўленне да яго паказвае, што і зараз стаўленне гэта неадназначнае. Напрыклад, пераважная большасць наведвальнікаў-носьбітаў афрыкаанс адчувае гонар за сваю мову. З іншага боку, напрыклад, частка нябелых носьбітаў афрыкаанс адзначае, што гэта помнік менавіта беламу афрыканеру і яго мове, "гэта помнік не маёй афрыкаанс".

Каб разарваць негатыўныя асацыяцыі помніка з апартэідам, сёння прадпрымаюцца крокі па наданні яму новых сэнсаў. Помнік з'яўляецца турыстычным аб'ектам, там ладзіцца мерапрыемствы па прапагандзе яднання: моўных, сацыяльных і культурных сувязяў. Гэта фестывалі, канцэрты, астранамічныя назіранні, святы, напрыклад, Дзень Мандэлы.

У адной са сваіх прамоў у 1995 годзе Нэльсан Мандэла сказаў, што, хаця раней афрыкаанс, як сродак распаўсюду палітыкі апартэіду, раздзяляў народ Паўднёвай Афрыкі, гэта таксама была і мова тых, хто змагаўся з прыгнётам. Мандэла адзначыў важнасць гэтай мовы для сучаснага грамадства і заклікаў да паважлівага стаўлення да афрыкаанс.

Напэўна, неўзабаве трэба чакаць з'яўлення помніка рускай мове ў Крыме. Гэта таксама будзе што-небудзь велізарнае. Так і бачыцца "зялёны чалавечак-вызваліцель", які працягвае рускі буквар крымскаму народу-пакутніку.

Нарэшце, у Дацы, сталіцы Бангладэш, ёсць Помнік пакутнікам. Гэта помнік студэнтам, забітым пакістанскай паліцыяй за выступленне ў абарону мовы бенгалі 21 лютага 1952 года. Сёння гэта дата адзначаецца як Міжнародны дзень роднай мовы. Рэплікі Помніка пакутнікам ёсць у некалькіх краінах свету.

Вядома, найлепшым ушанаваннем мовы быў бы не матэрыяльны аб'ект, а дасягненне, якое ў пэўнай меры забяспечыць далейшае існаванне мовы, напрыклад, змяненні ў Закон аб мовах, універсітэт з беларускай мовай выкладання ці хоць беларускамоўны Windows. Але, мабыць, і матэрыяльны знак будзе карысным. Прычым карысць - і задавальненне - будзе не толькі ад выніку, але і ад працэсу. Увагу грамадства да моўных праблем можа прыцягнуць конкурс на найлепшы праект, абмеркаванне месца і г.д. Магчыма, у вас ужо з'явіліся ідэі?

## Развітанне з словам?

Пачаў слухаць перадачу на тэму беларускага фальклору (канал "Культура". 30.08.2015). Навукоўца гаворыць па-беларуску добра. Гэта перш за ўсё і прыцягнула маю ўвагу. Але неўзабаве чую раз, другі: *"... песню, которую выконвае..; людзі, которыя любяць ..."*. І як гэта ўжо не аднойчы было раней, здалі нервы - выключаю радыё. А, мусіць, варта было даслухаць да канца, каб хоць даведацца, хто гэты чарговы "паднаўленец" нашай мовы.

Мой такі ціхі пратэст, вядома ж, не перашкодзіць пашырэнню гэтага слова на месцы нарматыўных займеннікаў ***які, што***. Бо сярод яго папулярызатараў "знакамітыя людзі": намеснік дырэктара рэспубліканскай бібліятэкі, вядомая даследчыца літаратуры, супрацоўніца выдавецтва... Пералік такіх асоб, пераважна маладзейшага пакалення, ужо ў адзін дзясятак не ўкладзецца. То ці варта пра гэта пісаць? Няхай ідзе, як ідзе...

І ўсё ж скарыстаю нагоду, каб запытаца: "Спадарове рупліўцы беларушчыны, чаго вы хочаце дасягнуць такой ноўшацыю? Узбагаціць мову? Дык у гэтым выпадку няма патрэбы: усталяваныя займеннікі ***што, які*** перадаюць значэнне, з якім вы ўжываеце слова ***каторы***". Успрымаецца гэта як запазычанне з рускай (*который*) і польскай (*ktory*) моваў.

***Алесь Каўрус.***

## Пайсці на кампраміс?

***Пра ўжыванне назвы***

Чарговы "дарунак" (дзеля "ўзбагачэння" беларускай мовы?) паднеслі чыноўнікі. Пасёлку далі назву ***Лябяжы***. Пэўна ж, іх вуха не магло прыняць беларускага, хоць яно, можа, не менш мілагучнае, найменне ***Лебядзіны***.

Пераконваць урадоўцаў у неправамернасці, недарэчнасці такога хрышчэння-перахрышчвання населеных пунктаў - відаць, марны занятак. Колькі было ў друку разумных прапаноў наконт вяртання, захавання спрадвечных і выбару новых назваў вуліц, плошчаў, вёсак і гарадоў! І часта яны заставаліся без увагі з боку ўладаў. На жаль, не пачутыя галасы нашых славутых тапанімістаў Леаніда Лыча, Валянціны Лемцюговай ды іншых.

У такіх варунках прапаную кампрамісны варыянт афіцыйнай, публічнай назвы. Хоць бы дзеля тых, хто заве сябе беларусам. Не маючы пакуль магчымасці замяніць назоў і мусячы пісаць яго *Лябяжы*, давайце будзем вымаўляць яго набліжана да нашай мовы.

Кажам жа мы: *вярблюд - вярблюджы, мядзведзь - мядзведжы*. Адпавядае такой фанетычнай заканамернасці і *Лябяджы*.

Будзем гаварыць ***Лябяджы*** - і ніякі чыноўнік з выканкама гэтага не забароніць.

***Алесь Каўрус.***

# Справаздача аб дзейнасці Шклоўскай раённай арганізацыі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны ў 2015 годзе

У 2015 годзе праведзена наступная работа:

1. 18 красавіка адбылося паседжанне-круглы стол на тэму: "Магдэбургскае права на Магілёўшчыне", на якім таксама прысутнічалі: Уладзімір Лапцэвіч, прадстаўнік Магілёўскай абласной арганізацыі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны"; Алесь Лагвінец, намеснік старшыні руху "За свабоду"; грамадскія актывісты Шклоўскага раёна, журналісты. Былі заслуханы даклады: "Магдэбургскае права на Магілёўшчыне" /Ул. Лапцэвіч/ і "Магдэбургскае права і Шклоў" /А. Грудзіна/. Таксама прысутным былі прадстаўлены дакументальны фільм "Магдэбургскае права ў Магілёве" і відэяпрэзентацыя "Шклоўская ратуша". У абмеркаванні прынялі ўдзел: Уладзімір Алейнікаў, Рыгор Кастусёў, Пётр Мігурскі, Яраслаў Фясько, Леанід Осіпаў, Алесь Лагвінец. Па выніках паседжання прынята пастанова, у якой прапаноўвалася раённай арганізацыі ТБМ, гісторыкам, краязнаўцам, прадстаўнікам СМІ здзейсніць намаганні па пашырэнні інфармацыі аб гістарычных традыцыях Шклова; прыцягненне ўвагі мясцовай грамадскасці і павышэнне цікавасці да знамянальнай падзеі - надання Магдэбургскага права як сімвала мясцовага самакіравання; папулярызацыя ідэі ўзмацнення мясцовага самакіравання ў сучасных умовах; стварэнне аргкамітэта па святкаванні дня надання Шклову Магдэбургскага права.

2. 25 верасня адбылося паседжанне на тэму: "Аб неабходнасці пастаноўкі на дзяржаўны ўлік, як помніка культуры, цаглянага пастамента з драўлянай фігурай, які знаходзіцца ў вёсцы Фашчаўка Шклоўскага раёна". Па выніках паседжання прынята пастанова, аб неабходнасці раённай арганізацыі ТБМ здзейсніць намаганні па пашырэнні інфармацыі і прыцягненні ўвагі грамадскасці да захавання для нашчадкаў цаглянага пастамента з драўлянай фігурай у вёсцы Фашчаўка Шклоўскага раёна. Таксама вырашана накіраваць адпаведныя звароты ў адрас Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры (БДТАПГК) і Шклоўскага раённага гісторыка-краязнаўчага музея.

3. У бягучым годзе пабачыла свет кніга сябра таварыства Лявона Анціпенкі "Роздумы на адзіноце", выдадзеная інфармацыйным агенцтвам "Магілёўскія ведамасці" і кніга "Шклоў: улада і народ", выдадзеная грамадзянскай ініцыятывай "Шклоўскі магістрат" пры актыўным удзеле сяброў таварыства Рыгора Кастусёва і Пятра Мігурскага.

4. Сябар таварыства Аляксандр Грудзіна выступіў на IX Міжнароднай канферэнцыі "Гісторыя Магілёва: Мінулае і сучаснасць" з паведамленнем "З гісторыі каталіцкіх святынь Шклова", на рэгіянальнай навукова-практычнай канферэнцыі "Магдэбургскія традыцыі на Магілёўшчыне" з паведамленнем "Мары здзейсніліся (Магдэбургскае права і адраджэнне ратушы ў Шклове)", якія праходзілі ў бягучым годзе ў горадзе Магілёве і на IV раённых краязнаўчых чытаннях імя М.Ф. Ільюшэнкі "Шклоў: гісторыя і сучаснасць", якія праходзілі 23 кастрычніка ў горадзе Шклове, з паведамленнем "Ян Караль Хадкевіч (455 год з дня нараджэння)".

5. З ліпеня гэтага года агучванне аб'яў на чыгуначнай станцыі "Шклоў" пачалося таксама і на беларускай мове. Гэта здзейснілася ў тым ліку і таму, што раённае таварыства неаднаразова звярталася да кіраўніцтва РУП "Магілёўскае аддзяленне Беларускай чыгункі" з адпаведнай просьбай.

6. Намаганнямі сяброў таварыства на геральдычным знаку, які быў устаноўлены у бягучым годзе ў горадзе Шклове, з'явілася назва горада таксама і па-беларуску.

7. Праведзены беларускамоўныя экскурсіі па горадзе Шклове для сяброў ГА "Таварыства беларускай мовы" і клуба аматараў беларускай гісторыі і падарожжаў "Чароўны ўспамін" горада Магілёва, а таксама для турыстычных груп з гарадоў Менска, Полацка.

8. Ад імя раённай арганізацыі ТБМ агучаны прывітальныя словы і ўручаны падарункі журналісту, літаратару, краязнаўцу і сябру ТБМ Анціпенку Лявону Міхайлавічу ў сувязі з 80-годдзем з дня нараджэння і калектыву Шклоўскага раённага гісторыка-краязнаўчага музея ў сувязі з 25-годдзем з дня заснавання.

9. У бягучым годзе раённая арганізацыя ТБМ панесла страты. У лютым гэтага года адышоў у іншы свет жыхар нашага горада Лявон Яўхімавіч Аўчыннікаў. Гэты быў цікавы і добразычлівы чалавек, які валодаў вельмі глыбокімі і разнастайнымі ведамі. Быў ён заўсёды неабыякавы да шматлікіх падзей, якія адбываліся ў жыцці сучаснага грамадства. Свае асабістыя погляды і меркаванні Лявон Яўхімавіч пачаў рашуча адстойваць яшчэ падчас службы на Балтыйскім флоце, у 1960 годзе ў складзе групы рабочых удзельнічаў у перамовах з адміністрацыяй Шклоўскай папяровай фабрыкі "Спартак" падчас штрайку на гэтым прадпрыемстве. Быў актыўным прыхільнікам ГА "Таварыства беларускай мовы" ад моманту стварэння адпаведнай структуры ў горадзе Шклове. Як чалавек, які нарадзіўся і амаль усё жыццё пражыў у Шклове, Лявон Яўхімавіч вельмі любіў наш горад і наваколле. Яго ведалі і паважалі многія жыхары Шклова.

10. Асобныя матэрыялы сяброў таварыства: Л. Анціпенкі, А. Грудзіны, Р. Кастусёва, П. Мігурскага грамадска-палітычнага, літаратурнага і гісторыка-краязнаўчага кірункаў друкаваліся ў газеце ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" "Наша слова", а таксама ў раённай газеце "Ударны фронт", пазнавальна-аналітычных мясцовых газетах "ШКЛОЎ-інфо" і "Магілёўскі выбар", беларускіх інтэрнэт-выданнях.

11. Сабраны і пералічаны фінансавыя ахвяраванні на дзейнасць ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.

*А. Грудзіна,*
*старшыня Шклоўскай раённай арганізацыі ТБМ.*

*Марыя Баравік*

# Кніга Марыі Новікавай - "Паверу ў цуды"

Выйшла кніга ў Глыбокім, накладам 99 асобнікаў.

Цягне сказаць у рыфму:

*...З "друкарні Зміцера"...*
*Сэрцам ззяе.*
*Яна й пад вокладкай*
*ўся такая.*

Ад пачатку ідуць вершы "І стаўся свет", "З неба - снег…" "Дух Святы прыходзіць", і далей светлая і гарачая філасофія любячай душы аўтара. Музыка думак і слоў. То радасная, то балючая.

Гэта думкавае поле шчырасці. Поле святла боскага духу паэткі. Так і хочацца прывесці радкі сёмай старонкі:

*За сценамі, вядома ж,*
*жыць прасцей.*
*Ды Дух Святы сыходзіць там,*
*дзе хоча.*
*І хто адчуў павеў Яго крыла*
*І парасонам звыклым*
*не закрыўся,*
*Той стаў нашчадкам*
*Вечнага Святла.*
*Бо ад Святла*
*душою нарадзіўся.*

Назваў верша "І стаўся свет" Марыя ўзнімае чатыры тэмы: першы дзень чалавечы, знаёмства з ім праз слова "мама", адкрыццё свету бязмежнага, вяртанне "з усіх закручаных шляхоў", бо "подыхам сваёй зямлі на ўсё жыццё сагрэты".

Побач верш: "Мы - трубы ў жыццёвым аргане", дзе гучыць пераказ нашых чалавечых магчымасцяў. І як бы лёс не схіляў нас "слухмяна ў жыццёвай плыні чарговым гучаць акордам", ды ўспыхвае, раптам, выніковая думка:

*І блісне мой гук дыезам,*
*І зменіць танальнасць п'еса.*

Ці такі, напрыклад, нечакана адметны ход ("З неба - снег") думкі, адпраўленай ад малітвы. Дыялог лірычнай гераіні з "Дабравесным Анёлам Святым", узаемаперасцярога ад зямной падсуднасці - прынясце згоды на выпрабаванні:

*- Вітай, Марыя!*
*Дух народзіцца ў Табе -*
*Дух Свабоды, які адкрые*
*Брамы вязніцы для цябе…*
*Ці прымаеш ты дар,*
*дачка Евы?..*
*І адказ на такое Дабравесце:*
*- Дай мне сілы далоні звесці!*
*І дазволіць Духу Свабоды*
*Спраўдзіць новае Дабравесце!*

Паэтка выразная ў мастацкіх думках пра ўсё, што адкрылася зроку душы пры розных абставінах і ў сувязях з рознымі людзьмі.

Яна сутыкнулася ў "гарадскім нявeтлівым віры" з каменнасцю: "Мы робімся пакрыху камянямі". Убачыла, перака괬налася: "На полі жыццё - камяні". І душа ў людзях чамусьці зрабілася каменнай:

*Іх думкі і словы -*
*каменныя сваі…*
*Іх вера - артыкул*
*ў статуце каменным…*
*...Нічога не зробіш:*
*Яны - ВАЛУНЫ!*

Дык і прыйшоў сумнеў ад каменнасці: "Ты - чалавек? Ты - хто?" (верш: "Гэта проста: правілы лёгкія").

Але перамагае вера: "Людзі з даверлівых сцежак шлюць прывітанне да зораў"… І далей покліч:

*Прыйдзі!..*
*Хай смех дзіцячы*
*з Бэтлеемскай стайні*
*Растопіць*
*сэрцаў нашых камяні…*
*Заплач над нашым*
*выкручаным лёсам.*
*І нарадзіся, Госпадзе, ў душы!*

Гэты першы раздзел Марыя назвала: "Да канца - чалавекам!"

*Выбар: Слава ці Бог,*
*Тлум ці вернасць.*
*Божа,*
*Праўду абраць памажы!*

І тут прысвячэнні: тым, хто выбірае праўду, ад чыёй прысутнасці радасна і спакойна.

Як бы працяг гэтай думкі - цыкл "Ты проста будзь!". Ён запрашае "каштанавую песню" паслухаць, згадаць "цуда-зоркі вачэй" і быць шчаслівай.

Ззяюць і грэюць такія ўсмешлівыя іскрынкі, як радкі пра чорныя вейкі, пра "квяцісты край кашубскай альбы".

Гуляе, бліскае жарт пад загалоўкам: "Во - табе!". І зноў пяшчота, распранутасць душы у раздзеле "Столькі год ад званка да званка". Высвечаныя таямніцы школьных калідораў, у памяць просяцца "Вершы года".

І, урэшце, - "Белачырвона-белыя вершы". У іх душа кажа:

*Наш век, як трава.*
*А наперадзе - Вечнасць.*
*І белае поле без межаў,*
*без краю,*
*На белай далоні*
*Агеньчык трымае…*
*...Стужкай чырвонай*
*па беламу - доля…*
*Бог стомлены*
*глядзець не хоча -*
*На плошчу нашых*
*вольных сноў,*
*Пад ногі ідалаў і елак*
*Жывая пралілася кроў.*

Завяршае змест кнігі думка паэткі, шукальніцы самой сябе:

*"Хто я?..*
*Ды, зрэшты, гадаць не буду:*
*Паверу.*
*Паверу ў цуды!*

Тут застаецца і мне дадаць асабістым мастацкім колерам думкі пра аўтара:

*Твая душа працуе так высока!*
*Дзе вольна думкам,*
*лёгка, як аблокам…*
*З яе агонь прасвечвае глыбока*
*Ад позірку на свет*
*сардэчным вокам.*

# "Звычайны шоу-бізнес"

Набыў у краме ТБМ кнігу апавяданняў Юрыя Несцярэнкі "Звычайны шоу-бізнес", якая пабачыла свет у выдавецтве "Кнігазбор" у верасні 2015 г. Рэдактарам выдання з'яўляецца Барыс Сачанка, а карэктуру зрабіла славутая паэтка Наталля Кучмель. Наклад кнігі 250 асобнікаў.




Спадар Несцярэнка - літаратар, музыкант, аўтар і выканаўца, стваральнік гуртоў "White Night Blues", "Nestary Band".

Ён нарадзіўся ў 1965 годзе на Быхаўшчыне. Скончыў Менскі інстытут культуры. Піша прозу, публіцыстыку, а таксама перакладае з англійскай, польскай, украінскай, рускай моў.

Творы друкаваліся ў "часопісах "Дзеяслоў", "Маладосць", "Бярозка", газетах "Літаратурная Беларусь", "Літаратура і мастацтва", "Краязнаўчая газета" ды многіх іншых. Кніга вельмі цікавая, і я раю набыць яе чытачам газеты "Наша слова". Яе кошт 50 тысяч рублёў.

*Аляксей Шалахоўскі.*

# Пра падпіску на "Наша слова" ў Лідзе

23 снежня ў Лідзе прайшоў "круглы стол" сяброў Лідскай гарадской арганізацыі ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" і рэдакцыі газеты ТБМ "Наша слова", прысвечаны папярэднім вынікам падпіскі на газету "Наша слова" на Лідчыне.

Рэдактар газеты "Наша слова" Станіслаў Суднік паведаміў, што сітуацыя з падпіскай на першае паўгоддзе 2016 года чакаецца цяжкай. Змяняецца агульная структура інфармацыйнага поля. На пярэдні план выходзяць электронныя крыніцы атрымання інфармацыі, асабліва ў моладзевым асяроддзі. Разам з тым газета "Наша слова" нясе інфармацыю вельмі патрэбную для працэсу нацыянальнага адраджэння.

Дзяржаўныя структуры не спяшаюцца афармляць падпіску на "Наша слова". Выпісвае толькі Цэнтральная бібліятэка. Таму за сродкі ТБМ сёлета падпісаны на газету дзве бібліятэкі Лідскага каледжа і бібліятэка Лідскага музычнага каледжа. Падпісаны Цэнтральная бібліятэка г. Нясвіжа, вясковая і школьная бібліятэкі в. Сейлавічы Нясвіжскага раёна. Застаўся адзін дзень, каб паспець падпісаць яшчэ колькі структур.

Працягваецца бязадраснае распаўсюджанне газеты. Так сябар ТБМ Станіслаў Карабан кожны тыдзень заносіць 20 асобнікаў газеты ў гарадскую лазню. Газета не толькі паспяхова разбіраецца, а выклікае ажыўленыя дыскусіі і дыскусіі даволі шчырыя, бо ў лазні ўсе роўныя.

*Наш кар.*

# Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў студзені

Аверына Іна Віктараўна
Адаська Віктар
Акулін Эдуард
Акуліч Аляксандр
Алейнікаў Мікалай Сідаравіч
Алесіна Ганна Міхайлаўна
Аліева Марыя Рыгораўна
Аляхновіч Мікалай Мікалаев.
Андрасовіч Наталля Валянцін.
Антаноўскі Мікалай
Антанюк Ян Ігнатавіч
Анціпенка Лявон Міхайлавіч
Апейка Марыя Фёдараўна
Аскірка Валянцін Фёдаравіч
Ашкінадзэ Аляксандра Аляк.
Ашуева Вера Яўгенаўна
Бабровіч Вера Грыгор'еўна
Баброў Яўген Ігаравіч
Багданкевіч Святлана Мікал.
Багданчык Таццяна
Бакіноўскі Валянцін
Баркоўская Настасся
Баркун Любоў Сяргееўна
Барткевіч Таццяна Фёдараўна
Барысаў Лявон Аляксеевіч
Барысевіч Аляксандр Вітол.
Барысюк Уладзімір Уладзімір.
Батуеў Павел
Батура Вольга Іванаўна
Бахір Алена
Белы Павел Аляксандравіч
Бечка Антон Вацлававіч
Благачынны Фларыян Мікал.
Болбас Данута Вацлаваўна
Булыга Міхаіл
Бурбоўская Алена Уладзімір.
Бяліцкая Ганна Сцяпанаўна
Бяляева Кацярына Уладзімір.
Варанцоў Міхаіл Ананіевіч
Варатынская Галіна Аляксан.
Варонька Ніна Адэльфонс.
Васілевіч Алена Канстанцін.
Віданава Ірына Аляксеўна
Вінаградаў Віталь
Вісловіч Эдуард Андрэевіч
Водзіч Таццяна
Водчыц Таццяна Мікалаеўна
Выбарнаў Аляксей Анатол.
Вярбоўская Надзея
Гайдук Марыя
Гайцюкевіч Таццяна Аляксан.
Галавач Яўген
Гапеева Вальжына Міхайлаўна
Гаравы Марат
Гарадко Галіна Станіславаўна
Гарачанкова Юлія Аляксанд.
Гарбачова Тамара Валер'еўна
Гардзіенка Ала Андрэеўна
Гасціловіч Уладзімір Всільевіч
Гацак Максім Віктаравіч
Гедроіць Аляксандр Генадз.
Герасёва Таццяна Андрэеўна
Герасімцова Галіна
Герман Таццяна Арсенцьеўна
Гільвей Валянціна
Грышкевіч Лявон Іосіфавіч
Грэбень Раіса
Гундзер Мацвей Уладзімір.
Гуркова Каміла Мсціслава Ал.
Гурская Людміла
Гусарэвіч Максім Фёдаравіч
Дашкевіч Віктар Мікалаевіч
Дварэцкі Аляксей Вадзімавіч
Дварэцкі Андрэй Вадзімавіч
Дзям'янаў Аляксандр Уладзім.
Дзям'яненка Юлія Яўгенаўна
Домаш Сямён Мікалаевіч
Доўнар Павел Віктаравіч
Драздоў Уладзімір
Дранжкевіч Марыя
Дробаў Іван Міхайлавіч
Дубовік Ганна Уладзіміраўна
Дуброўская Наталля
Дунецкі Анатоль Пятровіч
Дычок Рэгіна Янаўна
Езавіт Т. В.
Елісееў Андрэй
Емельяновіч Вера Міхайлаўна
Ефімовіч Аляксандр Вячасл.
Ефімоўская Дана
Жарнасек Ірэна Францаўна
Жылінская Святлана
Жынь Канстанцін Уладзімір.
Заіка Зоя Міхайлаўна
Закрэўская Ніна
Зарубава Ганна Уладзіміраўна
Захарава Кацярына Алякс.
Збароўскі Эдуард Іосіфавіч
Здановіч Ніна Іванаўна
Землякова Ала Максімаўна
Зімніцкая Ганна Ігараўна
Зімніцкі Леанід
Зубар Марына Уладзіміраўна
Іванковіч Уладзімір Уладзімір.
Іванкоў Уладзімір Уладзімір.
Івановіч Кацярына Анатол.
Іваноў Віталь Юр'евіч
Ігнатчык Алег Уладзіміравіч
Іпатава Вольга Міхайлаўна
Кабышаў Зміцер
Кавальчук Таццяна Юр'еўна
Казак Валянціна
Казак Галіна Сцяпанаўна
Казак Міхась Мікалаевіч
Казак Сяргей Іванавіч
Казлоўскі Алег Феліксавіч
Калесніковіч Максім
Калінін Мікалай Вальдэмар.
Калінка Святлана Міхайлаўна
Каліноўская Марыя
Калоднікава Алена Валянцін.
Калядка Іна
Канопкіна Таццяна Станіслав.
Канус Марыя Іванаўна
Капарыха Мікалай Уладзімір.
Капуста Алена Міхайлаўна
Карабан Станіслаў Вацлавіч
Каралёнак Мікалай Мікал.
Каратчэня Іван Адамавіч
Карней Ігар Пятровіч
Кароль Вольга Мікалаеўна
Карповіч Уладзімір Леанідавіч
Карпук Наталля Львоўна
Картузава Яўгенія Юр'еўна
Карэнька Людміла Мікалаеўна
Каспяровіч Ілля Алегавіч
Касьян Марыя Віктараўна
Кашчэева Людміла
Каяла Уладзімір Іванавіч
Кізееў Ігар
Кісель Таццяна Аляксандр.
Клімашонак Віталь Алегавіч
Кліменценка Святлана Ульян.
Клімуць Яраслаў Іванавіч
Клямята Уладзімір Антонавіч
Кніга Галіна
Кожан Кліменці Арсенавіч
Козел Алена Аляксандраўна
Коласава Алена Аляксандр.
Корнеў Павел Іванавіч
Котаў Павел Аляксандравіч
Красоўская Таццяна Мікал.
Красоўскі Лявон Мікалаевіч
Красоцкі Ян
Краўчук Ала
Крол Вера Сяргееўна
Крывальцэвіч Мікола
Крывой Яраслаў Віктаравіч
Крыж Сяргей Аляксандравіч
Кузьмянкоў Генадзь Адамавіч
Кулік Анатоль Міхайлавіч
Курцова Вераніка Мікалаеўна
Курчанава Ларыса Вітальеўна
Куцэпаленка Яўген
Лабанава Наталля Андрэеўна
Лабоха Канстанцін Валянцін.
Лаеўскі Дзяніс Уладзіміравіч
Лазарэнкаў Валянцін Дзмітр.
Лазюк Аляксандр
Лакішык Аляксей Рыгоравіч
Ларычаў Алег Васільевіч
Лашук Алег Пятровіч
Ліпскі Канстанцін Аляксеевіч
Лісоўскі Дзмітры
Ліцкевіч Наталля
Ліцвінчук Анатоль
Лобан Павел Міхайлавіч
Лобец Алесь Паўлавіч
Лукашэнка Антон Уладзімір.
Луцэвіч Аляксандр Сяргеевіч
Лысенак Р.В.
Лысы Аляксандр Уладзімір.
Люліна Алена Канстанцінаўна
Лявончык Алена Рыгораўна
Магалінскі Ігар Уладзіміравіч
Магучава Таццяна Васільеўна
Магучая Галіна
Малаковіч Надзея Якаўлеўна
Маліноўскі Лявон Яўгенавіч
Малышава Людміла Яўгенаўна
Малышка Іпаліт Міхайлавіч
Малышчыц Ларыса Канстанц.
Малюк Марына Мікалаеўна
Маляўка Марыя
Маркоўская Кацярына Мікал.
Мароз Аксана Пятроўна
Марцінкевіч Марыя
Масакоўскі Генадзь Уладзім.
Масакоўскі Уладзімір Генадз.
Мацюшава Яна Аляксандр.
Мельнікаў Юры Леанідавіч
Мільнова Таццяна Мікалаеўна
Мінько Мірына
Місілевіч Ксенія Аляксандр.
Міхалева Варвара
Міхалькевіч Людміла Мікал.
Міханчык Нэлі
Міцкевіч Людміла Сямёнаўна
Мішкель Станіслаў
Мішкоў Яўген
Музычэнка Андрэй Мікал.
Муша Уладзімір Мікалаевіч
Мялешка Віктар Аляксандр.
Наваградскі Мечыслаў Аляк.
Навахрост Кацярына
Навуменка Валянціна Мікал.
Нагорны Юры Аляксандравіч
Нікалаеў Аляксандр Яўгенавіч
Нікіцін Аляксандр Аркадзев.
Новік Міхась Фаміч
Норка Алеся
Падабед Аляксандр
Падгайская (Пярвушына) Г. С.
Палубінская З. Г.
Панізовіч Марат Яфімавіч
Панкратава Наталля Сярг.
Панчук Арцём Аляксандравіч
Паплеўка Юлія Юр'еўна
Патаранскі Сяргей Сяргеевіч
Паўлючук Антон
Пісарэнка Аляксандр Васіл.
Пляхневіч Тамара
Пракаповіч Наталля Фёдар.
Пракурат Яўген Андрэевіч
Пратасаў Мікалай
Пратасеня Юры Аляксандр.
Прымака Васіль Дзмітрыевіч
Прыхач Віталь Іванавіч
Прышчыц Валянціна Сцяпан.
Псурцава Галіна Аляксандр.
Пясецкі Генадзь Леанідавіч
Пячкоўскі Франц Уладзімір.
Рабыкін Аляксандр
Рабянок Дзяніс
Радзюк Міхаіл Міхайлавіч
Раковіч Аксана Уладзіміраўна
Рамановіч Вераніка
Ролік Анісій Нікадзімавіч
Роўкач Андрэй
Рудзіч Алена
Руцкая Алена Вітальеўна
Рымша Сяргей
Сабініна Лілея Іванаўна
Савуліч Мікалай
Самонаў Алесь Іванавіч
Самуйлік Яўген Рыгоравіч
Сарокін Андрэй Віктаравіч
Саскевіч Алена Мікалаеўна
Сасковіч Алена
Саханчук Сцяпан Савельевіч
Свентахоўская Валянціна Міх.
Свістунова Алеся Аляксандр.
Семянчук Альбіна
Сівіцкі Уладзімір Уладзімір.
Сімбіроў Ігар Генадзевіч
Сіповіч Святаслаў Іосіфавіч
Сірота Вінцэнт Уладзіміравіч
Сітніца Рыгор
Скамейка Сяргей Кузьміч
Скрабатун Уладзімір Іванавіч
Скрыпко М.А.
Снітко Вера
Снітко Тамара
Стагначоў Уладзімір Фёдар.
Судак Вікторыя
Суша Тамара Мікалаеўна
Сушчэня Анатоль
Сцепанчук Надзея Уладзімір.
Сытая Таццяна
Сяргейчык Аляксей Мікал.
Тамашоў Мікалай Васільевіч
Тамашэвіч Аляксандр Уладз.
Тамашэвіч Тамаш Іосіфавіч
Тарасевіч Тамара Сафронаўна
Трухін Уладзімір Фёдаравіч
Украінка Сяргей Сяргеевіч
Фёдарава Вольга Дзмітрыеўна
Фёдарава Лілея
Федаровіч Святлана Міхайл.
Федзюшка Надзея
Фядотаў Феакціст Фёдаравіч
Хадановіч Маргарыта Міхайл.
Хадоркін Мікола Фёдаравіч
Хамайда Барыс Ханонавіч
Хамец Міхась Дзмітрыевіч
Харытончык Надзея Іванаўна
Хмараў Сяргей Рыгоравіч
Хомка Вячаслаў Міхайлавіч
Храпавіцкі Станіслаў Іванавіч
Царкова Ніна Канстанцінаўна
Цітоў Ігар Віктаравіч
Ціхачова Ганна Андрэеўна
Цыбульская Людміла Віктар.
Цяцеркін Мікалай Яўгенавіч
Чайка Сяргей
Чаркасава Любоў Восіпаўна
Чарных Наталля
Чарнякова Вольга
Чачотка Анатоль Ільіч
Чцепанчук Міхаіл Уладзімір.
Чылек Міхал Паўлавіч
Чырэка Алесь
Шаклач Таццяна
Шафарэнка Мікалай Мікал.
Швец Алена
Шунько Наталля Фёдараўна
Шыбека Аляксандр Сяргеевіч
Шыдлоўская Ніна Анатол.
Шыман Дзмітры Валянцінав.
Шыманец Алена
Шышко Вадзім Аляксандравіч
Юранкова Марыя Віктараўна
Юхневіч Яўген Аляксандравіч
Якавенка Яўген Яўгенавіч
Якалцэвіч Марыя Антонаўна
Якушава Аліна Мікалаеўна
Янушкевіч Леанід
Ярашук Глеб Алегавіч
Яўмененка Мікалай Аляксеев.
Яўсеенка Жана
Яцкевіч Уладзімір Антонавіч

## Выйшаў перакідны краязнаўчы каляндар Гарадзеншчыны на 2016 год

Прафесар Гарадзенскага ўніверсітэта, старшыня Гарадзенскай гарадской арганізацыі ГА “ТБМ імя Ф. Скарыны” Аляксей Пяткевіч падрыхтаваў і выдаў "Беларускі настольны перакідны краязнаўчы каляндар" на 2016 год, прысвечаны Гарадзеншчыне. Рэдактар выдання - рэдактар газеты "Наша слова" Станіслаў Суднік.

Падобны каляндар не выдаецца ні ў адной вобласці Беларусі. Гэта ўжо сёмы выпуск такога календара. У ім пададзена каля паўтысячы важных і цікавых датаў з гісторыі Гарадзеншчыны, што яшчэ раз пацвярджае яе багацце і напоўненасць падзеямі і асобамі праз гады і стагоддзі. Ранейшыя календары мелі даволі вялікі поспех і выклікалі зацікаўленасць не толькі на Гарадзеншчыне, але і па ўсёй Беларусі. Выданне з'яўляецца пэўным крокам у развіцці гарадзенскага краязнаўства, паколькі нацэльвае краязнаўцаў з Гародні і рэгіёнаў на працу па пэўных датах і з пэўнымі людзьмі, якія адзначаны ў календары.

Адметнасцю сёлетняга выпуска ў тым, што тут упершыню ў Беларусі каляндар падае **13 лістапала** як **Дзень беларускай школы,** чаго пакуль няма ні ў адным беларускім календары, але, спадзяёмся, будзе ва ўсіх, як гэта сталася з **Міжнародным днём роднай мовы 21 лютага** і паступова становіцца з **Еўрапейскім днём моў 26 верасня**.

Кожны выпуск Гарадзенскага календара афармляецца ў спецыфічным ключы. У сёмым для афармлення выкарыстаны 13 відаў беларускага нацыянальнага арнаменту, як даніна росту папулярнасці беларускіх вышыванак у 2015 годзе і спадзяванне, што гэтая папулярнасць не затухне.

***Наш кар.***


БЕЛАРУСКІ
НАСТОЛЬНЫ ПЕРАКІДНЫ
КРАЯЗНАЎЧЫ
КАЛЯНДАР

НА 2016 ГОД

(на матэрыяле Гродзеншчыны)

*Складальнік А. Пяткевіч*
*Рэдактар С. Суднік*

Гродна 2015

# 70-годдзе Рэспубліканскага клінічнага шпіталя інвалідаў Вялікай Айчынай вайны імя П.М. Машэрава

5 студзеня 2016 года грамадскасць Беларусі адзначыць 70-годдзе Рэспубліканскага клінічнага шпіталя інвалідаў Вялікай Айчынай вайны імя П.М. Машэрава.

Адначасова з лячэннем у шпіталі праводзілася сацыяльная рэабілітацыя інвалідаў вайны. На базе шпіталя былі арганізаваны курсы, на якіх інвалідаў вайны вучылі мірным прафесіям бухгалтара, фатографа, кухара. У 1969 г. Міністэрства аховы здароўя ўсклала на шпіталь арганізацыйна-метадычнае кіраўніцтва работай арганізацый аховы здароўя рэспублікі па медычным забеспячэнні ветэранаў Вялікай Айчынай вайны. Па ініцыятыве першага сакратара ЦК КПБ Беларусі П.М. Машэрава было прынята рашэнне аб будаўніцтве шпіталя для інвалідаў ВАВ па індывідуальным праекце ў пасёлку Лясны. Шпіталь стаў адной з найлепшых устаноў аховы здароўя ў былым СССР.

У 1985 г. уведзены ў эксплуатацыю яшчэ адзін корпус і колькасць ложкаў шпіталя павялічылася да 700. У гонар 80-годдзя з дня народзінаў П.М. Машэрава і за заслугі ў будаўніцтве шпіталя ў 1998 г. установе было прысвоена імя П.М. Машэрава.

Сёння шпіталь узначальвае ўважлівы, добрасумленны чалавек Лішакоў Віктар Барысавіч. Ён знаходзіць час, каб выслухаць пацыентаў, якія прыходзяць да яго з рознымі пытаннямі. Зараз папраўляюць здароўе не толькі інваліды ВАВ, але і вязні фашысцкіх канцлагераў, ветэраны працы.

У гонар 70-годдзя шпіталя хочацца сказаць усім медработнікам установы "Вялікі дзякуй". Ад шчырага сэрца простымі словамі выказваем удзячнасць за адказнасць, чуласць, спагадлівасць медперсаналу тэрапеўтычнага аддзялення № 7. Іх цёплыя, пяшчотныя словы ствараюць добры настрой у хворых кожны дзень.

Асаблівыя словы падзякі заслугоўвае ўрач Пётр Леанідавіч Гамолка. Гэта добрасумленны чалавек. Яго клапатлівае сэрца, светлы погляд вачэй усяляе ў пацыентаў надзею на хуткае выздараўленне. Доктар ад Бога, які разумна выконвае свой абавязак. Гэта - чалавек з вялікай літары. Пётр Леанідавіч дае правільныя парады, як пазбегнуць любой хваробы. Няхай заўсёды на яго твары застаецца гумар, радасная ўсмешка.

Для дабра цякуць рэкі, для дабра пладаносяць дрэвы, для дабра жывуць высакародныя людзі. Наш доктар, Гамолка Пётр Леанідавіч, высакародны чалавек. Ён аддае свой талент, дабрыню, чуласць пацыентам. Здароўя, доўгіх гадоў яму жадаем.

Цёплыя словы падзякі заслугоўваюць лекары палiклінікі. Яны ўважлівы, дабразычлівыя адносяцца да інвалідаў, вязняў фашысцкіх канцлагераў, ветэранаў ВАВ і працы. Шчасця, здароўя, сямейнага Вам дабрабыту.

*З павагай і ўдзячнасцю пацыенты 503 палаты:*
***Гоман В.І., Рэйлян Г.П., Харкевіч Т.П., Якімчык Н.Дз.***

# Да 125-годдзя Аркадзя Смоліча

1891
1938

ІНБЕЛКУЛЬТ

дзеяч нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння,
адзін з тэарэтыкаў беларускай сацыял-дэмакратыі,
намеснік старшыні Інбелкульта

Аркадзь СМОЛІЧ

2016

СТУДЗЕНЬ

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |

ЛЮТЫ

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| 29 | | | | | | |

САКАВІК

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | 30 | 31 | | | |

КРАСАВІК

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | |

МАЙ

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 |
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| 30 | 31 | | | | | |

ЧЭРВЕНЬ

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| 27 | 28 | 29 | 30 | | | |

ЛІПЕНЬ

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |

ЖНІВЕНЬ

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| 29 | 30 | 31 | | | | |

ВЕРАСЕНЬ

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | | |

КАСТРЫЧНІК

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 |
| 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |
| 31 | | | | | | |

ЛІСТАПАД

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | 30 | | | | |

СНЕЖАНЬ

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | |

БАРАНІЦЕ МОВУ ПРОДКАЎ! УСТУПАЙЦЕ Ў ТБМ!

Наш адрас: вул. Румянцава, 13, 220034, Мінск, Беларусь
Тэл./факс (017) 284-85-11, e-mail: sladzba@gmail.com
Партал ТБМ: tbm-mova.by

У 2016 годзе споўніцца 125 гадоў з дня нараджэння Аркадзя Смоліча, віднага дзеяча беларускага нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння, тэарэтака беларускай сацыял-дэмакратыі, намесніка дырэктара Інбелкульта, аўтара першага падручніка "Геаграфія Беларусі".

ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" выдала насценны каляндар на 2016 год, прысвечаны А. Смолічу.

***Наш кар.***

# Сустрэча з гісторыкам у касцёле



23 снежня магілёўская суполка ТБМ зладзіла сустрэчу з вядомым беларускім гісторыкам і археолагам Алегам Дзярновічам. Размова зайшла пра з'яўленне першых мураваных цвердзяных пабудоў на прыкладзе Крэўскага замка, дзе апошнія знаходкі даюць матэрыял для больш глыбокага погляду на беларускую гісторыю. Таксама вялося пра ўзнікненне больш развітой гарадской культуры, пра пытанні балта-славянскага паходжання беларусаў і ўплыву на нашае развіццё суседніх этнасаў і культур. Сустрэча, на якую прыйшлі болей за пяцьдзясят чалавек, адбылася ў касцёле св. Станіслава.





***Алесь Сабалеўскі.***
Фота аўтара.

# Каляндар "Беларускае кола святаў"




Пабачыў свет прыгожы перакідны (12 аркушаў) настольны каляндар "Беларускае кола святаў" на 2016 год. Фармат календара 20 см x 15 см.

Мэта выдання календара: папулярызацыя беларускай мовы і святочных традыцый нашага народа.

Каляндар двухмоўны: беларуска-ангельскі. Таму ён будзе добрым падарункам як для беларусаў, так і для замежнікаў.

Кожны месяц выдання прысвечаны аднаму з вядомых беларускіх святаў.

Замовіць каляндар можна праз гэтую электронную пошту: dryhavicz@gmail.com

Кошт календара: 50 тыс. рублёў (без уліку перасылкі).

У дадатак да календара можна замовіць яшчэ і віншавальныя беларускамоўныя паштоўкі.

Азнаёміцца з поўным пералікам нашых паштовак можна па спасылках: У Кантакце і ў Фэйсбуку.

***Сяржук Бахун.***

# Беларускі нацыянальны касцюм

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

У халады адзеннем сялянскіх дзяцей былі кажушкі або світкі з чужога пляча (старэйшых дзяцей або бацькоў), доўгія спадніцы і порткі з даматканага палатна, суконная хустка і лапці з анучкамі, перавязаныя аборамі. Сабе на ногі дзеці надзявалі зімой валёнкі або "катанкі".

Абавязковай прыналежнасцю ўбору дзяўчыны былі ўпрыгожванні - каралі, завушніцы, стракатыя прыгожыя хусткі, абвязаныя вакол шыі са спушчаным канцом.

Хлопцы паважна хадзілі ў высокіх "чабоцях", у камзолах чорнага ці сіняга колеру са стракатымі шклянымі ці металічнымі гузікамі. Паверх камзола - пояс, які некалькі разоў абвіваў талію, зверху - світка і белая валяная шапка на галаве. У канцы XIX ст. у вясковую моду з горада прыйшлі фуражкі з казырком, якія сталі прыналежнасцю ўбору хлопцаў.

Касцюмы сялянскіх, мяшчанскіх і шляхецкіх дзяцей адпавядалі касцюмам іх бацькоў, што вынікала з уяўленняў, што дзеці - гэта такія ж дарослыя, толькі маленькія. Толькі ў пачатку XIX ст. дзеці дваран пачалі насіць своеадметныя ад бацькоў віды аддзеня, што было звязана з распаўсюджаннем у іх асяроддзі ідэй французскага філосафа Жан-Жака Русо, што дзеці маюць права на перыяд працяглага дзяцінства і на стаўленне як да дзяцей, а не дарослых. У XX ст. дзіцячы касцюм усіх праслоек грамадства ўжо выразна адрозніваўся ад касцюма дарослых, асабліва ў колерах.



**Князь Юзаф Сапега (1737-1792) у маленстве. Партрэт 1740-х гг.**



**Дзяўчынка-сялянка з вёскі Вялава Ашмянскага павета. Фатограф граф Бенедыкт Тышкевіч, 1898 г.**



**Жанчыны з дзецьмі з вёскі Дражын Бабруйскага павета. Фатограф Ісак Сербаў, каля 1912 г.**



**Хлопчыкі-сяляне з вёскі Васілевічы Рэчыцкага павета. Фатограф Ісак Сербаў, каля 1912 г.**



**Дзяўчынкі-сялянкі Заходняй Беларусі ў кобрынскім строі. Фота 1930-ых гг.**



**Беларускі свастычны арнамент**



**Беларуская традыцыйная сялянская кашуля, упрыгожаная арнаментам, з-пад Смаленска**

### Арнамент у беларускім традыцыйным сялянскім касцюме

Арнаментыка беларускага традыцыйнага сялянскага касцюма надзвычай разнастайная і выразная. Яна складаецца пераважна з геаметрычных і геаметрычна-раслінных узораў. Асноўнымі элементамі беларускага арнамента з'яўляюцца ромб у разнастайных яго варыянтах: у выглядзе квадрата, пастаўленага на вяршыню, з чатырмя кропкамі, з адросткамі, а таксама крыжы, разеткі-зоркі, прамыя і зігзагападобныя лініі.

Прастора, якая перадаецца ў арнаменце - не ілюзорнае адлюстраванне рэчаіснасці, а служыць упрыгожванню аб'ектаў прадметна-прасторавага асяроддзя чалавека і без прадмета не існуе і не мае сэнсу. Нават самыя выяўленчыя матывы, напрыклад, ружы, размешчаныя ўздоўж рукава сарочкі, існуюць не ў сваім прыродным асяроддзі, полі ці ў букеце, а менавіта на тканіне вырабу.

Разнастайнасць беларускага вышытага і тканага арнамента прадстаўлена варыянтамі злучэння асобных геаметрычных матываў у розныя па структуры і рытме кампазіцыі. Часцей за ўсё сустракаецца бардзюр - узорная паласа ці стужка, якая абмяжоўвае край, дзеліць паверхню на часткі, паласу, у якой адзін ці два матывы паўтараюцца ў пэўным рытме. Злучэнне палос рознай шырыні дае бясконцыя варыянты арнаментальных кампазіцый. Вышытыя бардзюры акцэнтуюць у беларускіх жаночых сарочках месца злучэння верху рукава і плечавой устаўкі. У жаночых і мужчынскіх кашулях вузкія бардзюры ўпрыгожваюць абшыўкі рукавоў і каўняры-стойкі. Простымі палоскамі ці арнаментальным бардзюрам заўсёды завершаны ніз фартуха.

Бардзюр у вертыкальным становішчы, напрыклад на манішках святочных мужчынскіх кашуляў, з'яўляецца цэнтрам дэкаратыўнай кампазіцыі касцюма, прыцягвае да сябе ўвагу ў першую чаргу. Вертыкальнымі бардзюрамі вышываліся рукавы жаночых кашуляў, пры гэтым у кампазіцыі выдзяляўся цэнтральны, больш шырокі бардзюр. Шырыня бардзюраў, якія выкарыстоўваліся ў фартухах, заўсёды памяншалася знізу ўверх.

Другім найбольш распаўсюджаным у беларускім арнаменце прынцыпам размяшчэння асобных геаметрычных матываў на перасячэнні прамых ці дыяганальных восяў з'яўляюцца прамая і касая сеткі. Сетчатыя арнаменты запаўняюць верх рукавоў у жаночых сарочках магілёўскага, калінкавіцкага, брагінскага, няглюбскага комплексаў традыцыйнага касцюма, усю шырыню манішак на мужчынскіх кашулях. Сетчатыя арнаменты часта злучаюцца з бардзюрамі ў адзіную арнаментальную кампазіцыю.

Трэцім прынцыпам кампазіцыі вышытага арнаменту з'яўляецца разетка. Часцей за ўсё разеткі - гэта крыжы, васьміпялёсткавыя зорачкі, асобныя кветкі - ружы, лісты ці маленькія букеты. Нездарма такая вышыўка атрымала назву "цвяцістае нашыванне". Разеткі размяшчаюцца асобнымі элементамі, што дазваляе запоўніць дэкорам значную частку паверхні тканіны.

У канцы XIX ст. у беларускай вышыўцы распаўсюджваюцца новыя ўзоры і тэхнікі іх выканання. На змену геаметрычнаму арнаменту прыйшлі кветкава-раслінныя матывы, вышытыя ў тэхніцы "крыжык". Традыцыйным лічылася кветкавае спалучэнне чырвоных і чорных нітак.

У 1920-1950-я гг. на Беларусі шырока распаўсюдзілася паліхромная вышыўка свабоднай гладдзю. Гэты працэс адбываўся адначасова з адмовай сялян ад традыцыйных форм касцюма з даматканых тканін. Працэс разбурэння традыцый народнага касцюма, ткацтва і вышыўкі на тэрыторыі Беларусі адбываўся марудна і нераўнамерна. Пазней за іншых ён закрануў Палессе. Менавіта ў гэтым раёне захаваліся ўзоры традыцыйнага касцюма і архаічныя тэхналогіі яго стварэння і афармлення.





# Беларускі нацыянальны касцюм



*Жанчына ў хаце з вышыванымі і тканымі ручнікамі (Палессе, Заходняя Беларусь). Фота каля 1936 г.*

Кампазіцыя арнаменту ствараецца на аснове сродкаў упарадкавання асноўных элементаў графікі на паверхні вырабу, пры гэтым улічваецца характар як элементаў, так і паверхні.

Да традыцыйна вылучаных асноўных атрыбутаў кампазіцыі адносяцца цэльнасць, сіметрыя, асіметрыя, рытм, пластыка. Гэтыя атрыбуты адносяцца як да самой рэчы з арнаментам, так і да самога арнаменту, нават яго матыву, яны ж прымяняюцца ў тэхнічным канструяванні.

Цэльнасць - адна з асноўных якасцей любой арнаментальнай кампазіцыі, звычайна яна разумеецца як неразрыўнасць, безупыннасць, адзінства.

Сіметрыя ўяўляе сабой строгае матэматычнае паняцце. Сіметрыя ў шырокім сэнсе слова - суразмернасць, яна арганізуе кампазіцыю, усталёўвае супарадкаванне ў сістэме і з'яўляецца важным фактарам у дасягненні цэльнасці твора, у прыватнасці арнаменту.

Асіметрыя - адхіленне ад сіметрыі або яе адсутнасць.

Рытм - універсальны структурны прынцып, які характарызуе паўторнасць, мернасць чаргавання элементаў, парадак спалучэння ліній, плоскасцей, аб'ёмаў. Найпрасцейшае праяўленне рытму - паўтарэнне ў кампазіцыі аднолькавых формаў пры роўных інтэрвалах.

Пластыкай у арнаментальных кампазіцыях прынята называць плаўныя пераходы адных элементаў узору ў іншыя.

Па відзе выяўленчага элемента або па матыве, які выкарыстоўваецца ў арнаменце, яго падзяляюць на:

геаметрычны (кропкі, лініі - ломаныя, прамыя і зігзагападобныя, кругі, ромбы, шматграннікі, зоркі, крыжы, сеткі);

раслінны, які стылізуе лісце, кветкі, плады, дрэвы;

анімалістычны, які стылізуе фігуры ці часткі фігур рэальных ці фантастычных жывёл (леў, алень, конь, птушка, пеўнік, рыба, пчала, матылёк);

прыродны, які стылізуе з'явы прыроды (маланкі, полымя, сонца, месяц, зоркі);

сімвалічны (напрыклад, трохвугольнік сімвалізуе горы; круг, спіраль - сонца ці месяц);

культавы, які стылізуе хрысціянскія, язычніцкія або варажбітныя знакі, сімвалы веры (крыжы, абярэгі, Святое Дрэва, Дзяды, грамнічная свечка, Радаўніца, дамавік);

геральдычны (гербы і іх элементы, найбольш каштоўнымі якасцямі якіх з'яўляюцца прастата і лаканізм).

### Тканіны, матэрыялы і афармленне

У беларускім нацыянальным касцюме выкарыстоўваліся толькі натуральныя тканіны, якія выраблялiся ў хатніх умовах, у асноўным гэта былі лён і воўна, таксама ўжывалася тканіна з валокнаў каноплі. Для афарбоўкі пражы выкарыстоўваліся натуральныя фарбавальнікі: настоі траў, кары, лісця дрэў, балотнай руды.

Для вырабу верхняй вопраткі ўжываліся сукно і аўчына.

Чырвоныя ніткі для вышыўкі купляліся, але пасля ўжо ў хатніх умовах дафарбоўваліся ў карычневы і бардовы колеры. Часцей за ўсё адзенне было белага колеру, у якасці ўпрыгожвання яно афармлялася вышытым чырвоным арнаментальным узорам, які аб'ядноўваў увесь камплект у адзіную кампазіцыю. У арнаменце выкарыстоўваліся геаметрычныя ўзоры, пазней пачалі прымяняцца таксама раслінныя ўзоры і іх спалучэнне з геаметрычнымі. У абавязковым парадку афармляліся арнаментам рукавы, каўнер, фартух і галаўныя ўборы. Таксама для афармлення магло выкарыстоўвацца ткацтва ніткамі розных колераў.

Пры вырабе касцюма выкарыстоўваліся вышыўка, бранае, выбарнае, перавыбарнае, закладное, рамізнае, перабoрнае і ўзорнае ткацтва, карункі і аплікацыя, існаваў таксама спецыфічны промысел упрыгожання тканін - набіванка.

Для вырабу пояснага адзення шырока ўжываліся паліхромныя суконныя тканіны. На фартухі прышывалі пакупныя або самаробнае карункі.

Са з'яўленнем анілінавых фарбавальнікаў і крамных нітак спектр колераў дапоўніўся аранжавым, фіялетавым, блакітным, малінавым, ярказялёным, аднак сфера іх выкарыстання была абмежаванай.

### Асаблівасці крою

У беларускім касцюме выкарыстоўваліся тры тыпы кашуль: з прамымі плечавымі ўстаўкамі, тунікападобная, з какеткай. Кашулі ўсіх тыпаў мелі прамы разрэз (пазуху) па цэнтры, даўжыня якога дасягала 35-40 см.

У даўніну часцей за ўсё кашулі шылі без швоў на плячах, проста перагінаючы тканіну, але ў пачатку XIX ст. такі крой лічыўся састарэлым і выкарыстоўваўся толькі ў абрадавай вопратцы. Крой стаў полікавым, пры якім пярэдняе і задняе палотнішчы злучаліся з дапамогай прастакутных уставак з таго ж самага матэрыялу - полікаў.

Каўнер прысутнічаў толькі ў святочнай вопратцы сялян, яго вышыня была каля 2-3 см. Сярод дробнай шляхты быў распаўсюджаны адкладны каўнер. Стаялы каўнер зашпіляўся на пару гузікаў збоку або спераду, адкладны - на запанкі (шпонку) або сцягваўся стужкай або палоскай каляровай тканіны.

Пры раскроі спадніцы з палатна рабілі два палатны, а пры шыцці спадніцы з сукна выкарыстоўвалі ад трох да шасці падоўжных полак, якія сшывалі разам і збіраліся ў зморшчыны каля пояса.

### Вышыўка і нацыянальны касцюм у сялянскіх традыцыях

У сялянскім асяроддзі ўменне жанчын вышываць перадавалася з пакалення ў пакаленне. На Палессі ў багатых сем'ях з часамі збіраліся значныя запасы адзення. Гэтае багацце складалі працы мацярок, дачок і ўнучак, здаралася, што тры пакаленні вышывалі разам. Вышываць жанчын вучылі з дзяцінства. Больш за ўсё вышываннем займаліся незамужнія дзяўчаты, якія пачыналі гатаваць сабе пасаг задоўга да вяселля - ужо з 13-14 гадоў. Для вышывання яны выкарыстоўвалі кожную вольную хвілінку: нават калі пасвілі жывёлу, у перапынках падчас працы на панскім двары. Уменне ткаць і вышываць ацэньвалася як каштоўны навык, неабходны кожнай жанчыне. Калі дзяўчына валодала галоўнымі жаночымі рамёствамі - прадзеннем, ткацтвам і вышыўкай і ў час вяселля магла прадэманстраваць свой багаты пасаг і дары, то лічылася, што яна майстрыха і працаўніца. Высока ацэньвалася ўменне ствараць менавіта прыгожыя прадметы, упрыгожаныя ўзорамі, арнаменціраваныя.

У пасаг маладой па традыцыі ўваходзілі шмат тканых і вышытых прадметаў. У яго падрыхтоўцы прымалі ўдзел усе жанчыны сям'і - матуля, бабуля, незамужнія сёстры. Перад вяселлем, пасля заручын, маладая для падрыхтоўкі частак пасагу, якіх не хапае, заклікала на дапамогу "дружку" ці наймала "талаку" - збірала сяброўак і родзічаў, якія дапамагалі ёй ткаць, прасці і вышываць.

Пасаг у беларускіх сялян да пачатку XX ст. захоўваўся ў "кубле" - вялікай драўлянай бочцы з накрыўкай. У 1920-1950-я гг. у беларускай вёсцы на змену "кублам" прыйшлі "куфры", "скрыні". У пасаг уваходзілі палотны, сукно, ручнікі і адзенне - сарочкі, фартухі, наміткі.

Важнай часткай вясельнага абраду быў перавоз пасагу ў дом маладога і агляд усімі сваякамі рукадзелля маладой. Кубел ці скрыня павінны былі быць запоўнены даверху пасагам.

У доме маладога змесціва скрыні маладой развешвалі напаказ. Па колькасці і якасці выстаўленых прадметаў меркавалі аб памерах пасагу, дастатку сям'і маладой, аб яе мастацкіх здольнасцях, уменні ткаць і вышываць.

Жанчыны верылі, што вясельная сарочка, у якой яны вянчаліся, мела асаблівыя здольнасці. "Шлюбныя" сарочкі беражліва захоўвалі. Бывала, што такая сарочка служыла не аднаму пакаленню жанчын сям'і. Часта маладыя апраналі пад вянец сарочку матулі ці бабулі. У вянчальнай сарочцы - самай прыбранай і прыгожай, было прынята хаваць жанчыну. Беларусы вераць, што "на тым свеце" памерлыя продкі - "дзяды" пазнаюць іх менавіта па адзенні.

Для дзяўчыны завіванне наміткі - галаўнога ўбору замужняй жанчыны - сімвалізавала яе растанне з дзявоцтвам і ўступленне ў новы перыяд жыцця. Завітая ў белую намітку, якую ўпрыгожвалі жывымі кветкамі, маладая паўставала перад гасцямі ў сваім новым вобразе і якасці. Абрад завівання маладой, які выконвалі старэйшыя і абавязкова шчаслівыя ў шлюбе жанчыны, суправаджаўся пажаданнямі маладой шчасця і добрай долі ў шлюбе, дзяцей. З гэтага моманту жанчына ўсё сваё жыццё насіла завіты галаўны ўбор. Без яго жанчына не выходзіла за парог сваёй хаты.

Падарункі маладому абавязкова ўключалі вясельную кашулю, а таксама святочныя кашулі, колькасць якіх магла даходзіць да адзінаццаці, шыйную хустку, капшук. Вянчальную кашулю маладому вышывала па звычаі сама маладая. Яна вырабляла і ўпрыгожвала яе з любоўю і марай аб шчасці ў будучым сямейным жыцці.

"Маладзецкая" кашуля, прызначаная для маладога, была прадметам, з якім здзяйсняліся таксама спецыяльныя магічныя дзеянні, што забяспечвалі дзяўчыне шчасце ў сямейным жыцці. Напрыклад, напярэдадні вяселля пасля лазні маладая выціралася кашуляй, якая прызначалася для жаніха, што павінна было забяспечыць ёй яго любоў і шчасце ў сямейным жыцці.

У некаторых мясцінах Беларусі кашулю, якую падарыла маладая маладому, ён надзяваў у той момант вяселля, калі маладой расплеталі косы і павязвалі жаночы галаўны ўбор - намітку. Прынята было таксама пераапранаць маладых падчас раздачы каравая.

Кашулю, якая была да гэтага на маладым, аддавалі яго мацеры. Мужчынскія вясельныя кашулі берaглі як памяць усё жыццё, апраналі іх толькі ў святочныя дні.

Пасля вяселля маладая жанчына ўжо не мела магчымасці вышываць. У доме свякрухі маладую нявестку чакала шмат фізічнай працы і абавязкаў. Затым вынікала нараджэнне дзіцяці, за ім - шмат іншага, таму на вышыванне ў яе ўжо не заставалася часу.

### Сучаснае выкарыстанне

Беларускі нацыянальны касцюм амаль не выкарыстоўваецца ў штодзённым ужытку: індустрыялізацыя, інфарматызацыя і глабалізацыя як агульныя для свету тэндэнцыі прывялі да таго, што мяжа паміж адзеннем розных сацыяльных слаёў, як і розных нацый, у індустрыяльных і постындустрыяльных краінах пачала сцірацца. Беларусь не стала выключэннем з гэтага правіла.

Сялянскі беларускі нацыянальны касцюм шырока выкарыстоўваецца падчас правядзення ўрачыстых мерапрыемстваў: дзяўчаты ў народным адзенні сустракаюць з хлебам-соллю доўгачаканых гасцей.




*Танец "Крыжачок" у беларускіх народных строях на паштовай марцы Азербайджана*

Нацыянальны касцюм беларусаў - неад'емны ўдзельнік тэатральных і кінематаграфічных пастановак на нацыянальную тэматыку. Беларускае народнае адзенне выкарыстоўваецца ўдзельнікамі танцавальных, спеўных і інструментальных гуртоў і ансамбляў, прычым робіцца гэта не толькі ў кантэксце "рэканструкцыі" народных традыцый, але і проста ў мэтах надання ўдзельнікам групы пэўнага іміджу, які можа ўвогуле не спалучацца з іх творчасцю.

Беларускі нацыянальны касцюм і варыяцыі на яго тэму шырока выкарыстоўваюцца прадстаўнікамі беларускай палітычнай эліты, творчай і навуковай інтэлігенцыі, моладзі. Так, у Беларусі з 2013 г. некалькі гадоў запар праходзіць "Дзень Вышыванкі" - неафіцыйнае свята, якое прысвечана найперш распаўсюджванню традыцыі нашэння народнага адзення ў сучасным сацыяльна-культурным кантэксце і пашырэнню сферы ўжывання беларускіх мовы і культуры ў беларускім грамадстве.



*Язэп Янушкевіч пад беларускім сялянскім гальштукам-вышыванкай, пасаваным да сучаснага касцюма. Фота 2014 г.*

Варта адзначыць, што беларускі нацыянальны касцюм адносна часта з'яўляецца крыніцай натхнення для дызайнераў і мадэльераў: вядомы амерыканскі рэпер Снуп Дог выпусціў серыю адзення, якая была натхнёна беларускім нацыянальным касцюмам; варыяцыі на тэму народнага адзення беларусаў можна прасачыць у моднага дома "Valentino" і многіх беларускіх мадыстаў і рамеснікаў.

*Вікіпедыя.*





*У нобільны для Беларусі год адбылася яшчэ адна падзея, завязаная на гэтую тэму. Светлагорскі паэт Вадзім Болбас выдаў у Гомелі кнігу вершаў нобелеўскага лаўрэата Іосіфа Бродскага "Туга і спакой" у перакладзе на беларускую мову.*

# ТУГА І СПАКОЙ

## Геній трох народаў
### (прадмова перакладчыка)

"Няма прарока ў сваёй Айчыне..." - у гэтае старое, як свет, біблейскае выслоўе цалкам, укладаецца лёс Іосіфа Аляксандравіча Бродскага, паэта, якому сёлета споўнілася б 75 гадоў.

У былым СССР маладога ленінградскага хлопца як толькі не пераследваў тагачасны кіроўны рэжым. І на допыты ў КДБ цягалі, і "тунеядцем" зрабілі, і ў пастарунках ды турмах трымалі, і, нарэшце, выслалі ў не надта спрыяльныя для паэтычнай творчасці мясціны на поўнач Архангельшчыны. А паэт жыў, радаваўся жыццю і пісаў, пісаў, пісаў... Кароценькія вершы, санеты, даўжэзныя шматстылёвыя паэмы. Нам, цяперашнім чытачам, застаецца адно толькі здзіўляцца, адкуль у юнака столькі ведаў, абазнанасці ў літаратуры і гісторыі, паэтычнай фантазіі, таленту.

Дзівіць і тое, што малады паэт, не ў прыклад многім, ніколі не скардзіўся на цяжкі лёс, ні на кога не крыўдаваў, нікога не праклінаў. Наадварот, гады, праведзеныя ў ссылцы, называў ці не самымі шчаслівымі ў сваім жыцці. Чаму так? Мо таму, што, заняты часам нялёгкай працай, думкамі і сэрцам ён быў вольны? А мо і таму, што інтуітыўна адчуваў высокае пакліканне, нейк убачыў незаўважны для іншых свой шлях у Геніі, шлях "у цьме... да вялікіх .. .у шыхт".

Прыемна было даведацца, што зусім нядаўна на ст. Норанская, дзе паэт адбываў ссылку за "тунеядства" і напісаў многа выдатных твораў, адкрыты яго музей. Прарок паціху вяртаецца ў сваю Айчыну.

Грамадства і ўрад ЗША, дзе высланы з СССР Бродскі знайшоў прытулак, з павагай ставіцца да кожнага чалавека, талент, геніяльнасць не застаюцца незаўважанымі. Менавіта тут вартасць паэзіі Бродскага была належным чынам ацэненая. Тут Паэт быў прадстаўлены да Нобелеўскай прэміі, якую цалкам заслужана і атрымаў.

Учытвацца ў яго творы прыемна: нібы ты за вялізным сталом, застаўленым розным смакоццем, і, як той гурман, выбіраеш прысмакі і каштуеш, ласуешся.

У гэтай кніжцы прадстаўлены самы вялікі зборр перакладаў на беларускую мову ранняй паэзіі Іосіфа Бродскага, у тым ліку і дзевяць вершаў, аўтарам не датаваных, якія раней не друкаваліся, існуюць у электронных варыянтах.

Перакладчык, набраўшыся смеласці, можна нават сказаць, нейкага авантурнага "нахабства", "замахнуўся" на пераклады сусветна вядомага генія, Нобелеўскага лаўрэата. І выбіраў тыя творы, што больш адпавядаюць яго густу, вершы з імклівым, захапляльным рытмам.

Прадстаўлены тут і пераклады твораў вялікага аб'ёму і складаных паэтычных формаў. Зразумела, перастварыць такія творы іншай мовай значна цяжэй. Магчыма, таму гэтыя пераклады менеj удалыя.

Але пра вартасці і недахопы зборніка лепш меркаваць чытачам.

*Вадзім Болбас.*




### Успаміны

Белае неба
верціцца нада мною.
Зямля шэрая
грукае пад маімі нагамі.
Злева дрэвы. Справа
возера чарговае
з каменнымі берагамі,
з драўлянымі берагамі.

Я выцягваю, выдзіраю
ногі з балота,
і сонейка, праменьчыкамі малымі
мяне асвятляе.
Палявы сезон
пяцьдзясят восьмага года.
Я Белага мора
паціху дасягаю.

Рэкі цякуць на поўнач.
Хлопцы брыдуць - па пояс - па рэках.
Белая ноч над намі
набрыняла нарэшце.
Я шукаю. Я раблю з сябе
чалавека.
І вось мы знаходзім,
выходзім на ўзбярэжжа.

Блакітнавокі вецер
да нас ужо далятае.
Зямля у ваду пярэйдзе
з кароткім усплёскам.
Я ўздымаю рукі
і галаву падымаю,
і мора да мяне падыдзе
сваёй хваляй паблёклай.

Каго мы памятаем,
зараз каго забываем,
чаго мы варты,
чаго мы яшчэ не вартыя:
вось мы ля мора стаім,
і воблака праплывае,
і нашыя сляды вада залівае.

### Гладыятары

Развітаемся.
Да спаткання ў магіле.
Час наш набліжаецца.
Ну, дык што?
Мы не перамаглі.
Мы памрэм на арэне.
Гэтак лепей. Не аблысеем
ад дзевак, ад перапіцця.
...А неба над Калізеем
у тым жа блакіце,
як над маёй Айчынай,
якую дарма пакінуў
дзеля ісцін, таксама
дзеля багацця рымлян.

Нам, між іншым, не крыўдна.
Ну, хіба гэта крыўда?
Проста такая, значыць,
выпала нам планіда.

Час наш набліжаецца.
Людам трыбуны поўняцца.
Нам з пяску не падняцца.
Прагне натоўп відовішча.

### Верш пра сляпых музыкаў

Сляпыя блукаюць
ноччу.
Значна прасцей уночы
перайсці цераз плошчу.

Сляпыя вобмацкам
крочаць,
кратаюць свет рукамі,
святла не знаючы й ценю,
мацаючы камені:
робяць з каменю
сцены.
За імі жывуць мужчыны.

Грошы.
Дзеці.
Жанчыны.
Па-гэтаму
не скрышыць іх.
Лепш абысці
сцены.
А музыка аб іх
спаткнецца.
Песня патоне ў камені.
У сценах музыка
згіне,
заплямленая рукамі.
Кепска памерці ноччу.
Кепска канаць
вобмацкам.

І таму сляпы проста
ноччу йдзе
цераз плошчу.

### Мастак

Ён дбаў пра свой чэрап.
Верыў.
Яму крычалі:
"Не варта!"
(Ён не зважаў на жарты).
Ды падалі сцены.
Чэрап
моцным быў і ўпартым.

Ён думаў:
За сценамі чыста.
Ён думаў,
што далей - проста.
... Пазбегнуў самазабойства
дрэннымі папяросамі.

Пачаў ён блукаць па сёлах,
па жоўтых шляхах краіны;
ён пісаў у касцёлах
Юду і Магдаліну.
Мастацтва было высокім.
Пасля, пад дарожным пылам
яго, чумакі сівавусыя
годна так пахавалі.
Слёзы над ім не ліліся,
так, закідалі глінай...
Ды на зямлі засталіся
Юды і Магдаліны!

***

*Г.А. Ахматавай*

За садамі, тэатрамі, цэрквамі,
за кустамі ў халодных дварах,
за дзвярыма ў цямрэчы параднымі,
за бяздомныя ў гэтых дварах.
За начнымі бязлюднымі вулкамі,
за палацам над светлай Нявой,
за скляпеннямі, за пад'ездамі,
за лістотаю над галавой.
За бульварамі з цёмнымі урнамі,
за балконамі, поўнымі сну,
за цаглянымі змрочнымі турмамі,
дзе праз краты страчаюць вясну,
за вакзальнымі страшнымі люстрамі,
што чакаюць, калі ноч міне,
за запозненымі пачуццямі
Вы жывеце цяпер ад мяне.

За каханнем, за горам, за мужнасцю
або болей - Ваш воблік жыве,
за ракою, за шлюбнаю вернасцю,
дзе плывец адзінокі плыве.
За сваім Петраградам, за дальнімі
астравамі, ў імгненным раю
за сваімі пакутамі даўнімі,
ад мяне за замкамі сямю.
І падзелы ні векам, ні часам,
ні прасторам, дзе шум да нябёс,
і падзелы ні болем нязгаслым,
як ні дзіўна, не дзеліць нас лёс.
Ні пяром, ні паперай, ні голасам
раздзяленне маркотай, тугой ...
праўдай, болей няёмкай, чым горкаю:
адзінотаю душ векавой.

І на ўскраінах, там, за парканамі,
за крыжамі ля цынкавых зор,
за сямю - нават болей заваламі,
і не толькі за тысячу вёрст,
за ўсёю зямлёю гаротнаю,
за палётам яе жураваў,
за Айчынай, яшчэ не палітаю
ні слязамі маімі, ні крывёй.
Там, дзе блізу дарогі няпройдзенай,
дзе пад ветрам юнацтва дрыжыць,
недзе блізка Радзіма халодная
за Фінляндскім вакзалам ляжыць,
і гляджу ў прастор наваколны я,
я, напяты да болесці ўжо,
нібы шалі, яшчэ невядомыя,
у кагосьці ляжаць за душой.

Вось іду я, і вокны ўсе свецяцца,
за парканам шапочуць кусты.
І муры Петрапаўлаўскай крэпасці -
здані чорныя ў белай начы.
Расцякаецца белае воблака,
пад мастамі плывуць караблі,
ні гудка, ні свістка і ні водгуку
да апошняга краю зямлі.
Не прашу я любові, прызнання,
не хвалююся больш у журбе...
Доўга-доўга жывы, недасяжнасць!
Толькі зноў я прашу для сябе
абыякавасць, ласкавасць добрую
пры сустрэчы - жыццё, як раней.
Вам нясу я Любоў сваю доўгую,
хоць спазнаў непатрэбнасць яе.

### Элегія

Дух, розум, логіка - усё дарма,
няхай бы снег усё зацерушыў.
Калі ў палях бялявая зіма,
брыдзе ізноў з бязмоўнасцю душы.

Пра што я думаю з сабою сам,
напгго гляджу зіме я пільна ўслед
Бо снежань гэтым разам абагнаў
свято апошніх лютаўскіх адлег.

Якія нас чакаюць халады.
Мінуўшчынаю абагрэты мы,
не помнім, як знікаюць гарады
на выдыхі нялёгкія зімы.

І злыя, звар'яцелыя палі!
Іх цішыня, без розуму і злая.
Ды не спакой, а чарната зямлі
пра вобраз іншы моўчкі нагадае.

У гэтай белізне якісьці жах.
І бачу я - жыццё ідзе, як выклік
бясслаўю знешняму,
упаўшаму няўзнак
на гэту неўсвядомленую блізкасць.

### Песенька

Па пагорках паднебных,
па дарозе няблізкай,
без напеваў хвалебных
што з зямлі італійскай,
над краінай гародаў,
над сваімі палямі
праляціць зімародак,
памахае крыламі.

І з вышынь Алімпійскіх,
недасяжных для галкі,
там на схілах альпійскіх,
дзе квітнеюць фіялкі,
і хоць зыркія вочкі
і прастор не трывожыць,
бачыць птушка пагоркі,
зразумець іх не можа.

Паміж сосная над прорвай
птушка з крыкам нясецца,
затрымаўшыся ў хмарах,
да Айчыны імкнецца.
Памятаюць вяршыні
ды чырвоныя макі,
што на Монтэ-Касіна
ваявалі палякі.

***

Наш апошні паверх
ноч раней адчувае,
хай там дождж або снег;
я цябе абдымаю
і захутваю ў плашч,
ад таго, што ў вакне
дождж шапоча - ён плач
па табе і па мне.
Нам сыходзіць пара.
Перакрэсліла шкло
нітка, бы з серабра.
Назаўжды адбыло
наша шчасце даўно.
Памяняем рэжым.
Бо нам суджана жыць
па брэгетах чужых.

*Пераклад Вадзіма Болбаса.*

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:***
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Юля Бажок,
Марыя Баравік, Вінцук Вячорка, Аляксей Карпенка,
Эла Оліна, Ігар Пракаповіч, Аляксей Пяткевіч,
Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў,
Дзяніс Тушынскі, Аляксей Шалахоўскі.
**http://naszaslowa.by/ http://pawet.net/**
**http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/**
**http://nashaslova.mns.by/**

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 28.12.2015 г. у 17.00. Замова № 3789.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 8750 руб., 3 мес.- 26250 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.